№ 93 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакції: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыції: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 93 (185). Год II. Вільня, 20 лістапада 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# Выступленьне Мікалая Мікалаевіча.

## 19 лістапада.

**Заходні тэатр:**

Раніцай у Фляндрыі быў сільны агонь артылерыі, каторый па абедзі між морэм і Вэцэлярам дайшоў вялікай сілы.

**На ўсходнім і македонскім тэатры** — без вялікшых бітв.

**Італьянскі тэатр**

На паўночным усходзі ад Асьяго ворагі далей вялі свае крывавые штурмы, каб вярнуць утрачэные вяршыны.

Між Брэнтай і П'явэ ў вострых бітвах італьянцы баранілі свае назыціі крок за крокам. Крок за крокам мы адціснулі ворагоў назад. У найбольш упорных бітвах узяты штурмам Кварo і Монтэ Корнэля, а ворагі адкінуты на іх пазыціі на Монтэ Томба. 1100 італьянцоў папалі ў нашы рукі. На ніжнім цячэньні П'явэ артылерыйская бітва дайшла вялікай сілы.

---

КОПЭНГАГА. В. Кн. Мікалай Мікалаевіч прыбыў у глаўную кватэру Каледіна, сулячы свае услугі. Каледін назначыў яго за глаўнакамандуючаго ўсемі казацкімі сілами і абецаўся, дайшоўшы пабеды над большэвікамі, назначыць яго за рэгента і вярнуць монархію.

БЭРН. Газэта большэвікоў «Правда» друкуе загад Леніна аб сазыве нацыональнаго устаноўчаго сэйму на 25 лістапада.

ЖЭНЕВА. «Matin» пішэ, што саюзьніцкіе паслы ў Пецярбурзі вялі перэгаворы с Корніловым.

Гавас наказуе з Масквы, што там адбываюцца дзікіе рабункі, забойства і падпалы. Палажэньне — страшэннае.

"Figaro" пішэ, што анархія ў Расеі будзе яшчэ доўга трываць, бо там кожын хочэ выбіцца сам нацярод.

БАЗЭЛЬ. «Matin» пішэ, што Керэнскій, праіграўшы сваю справу, ~~намыкаўся налажыць на~~ сябе рукі.

ПЕЦЯРБУРГ. (Рэўтэр). Чыноўнікі міністэрства ўнутрэных дзел, таргоўлі, сельскай гаспадаркі і аддзелу стравааваньня выйшлі у адстаўку, лічучы патрэбнай коаліцію усіх соцыялістоў.

ЖЭНЕВА. „Echo de Paris" даведалося з глаўнай англіцкай кватэры, што бітвы на заходнім тэатры будуць трываць і зімой. Дзеля аканчацельнай пабеды цяперашніх адносін сіл, як 2 да 1, яшчэ мала.

ВЕНА. (В.Т.Б.). Між Брэнтай і Піявэ ворагі ізноў утрацілі сільные пазыціі ў гарах.

ЛЮГАНО. «Popolo Liberta» пішэ, што ўся Лёмбардзія аб'яўлена знаходзячайся ў ваенным поясе.

БЭРЛІН. (В.Т.Б). У заходняй часьці Сяродземнаго мора падводнымі лодкамі затоплено ізноў 11 параходаў і 8 парусьнікоў ёмкасьцю разам больш за 36.000 тонн.

ЦЮРЫХ. Тут у апошніе тры дні адбываліся вельмі сур'ёзные разрухі. Часць работнікоў ня хочэ пазволіць на выраб амуніціі для саюзьнікоў. Узнялася праўдзівая баталія на вуліцах, у каторую ўмешалося войска. Забіты 3 асобы, ранены больш за 20, у тым ліку адна кабета.

ГААГА. Прэзыдэнт Вільсон дамагаецца, каа яму далі мейсцо ў ваеннай радзі саюзьнікоў, бо амэрыканскае войска б'ецца на Заходзі і скора прыедзе ў Італію. Рузвэльт хочэ быць у ваеннай радзі саюзьнікоў прэдстаўнікам Вільсона.

ТОКІО (Рэўтэр). **Урадова.** Японія прымушэна адрачыся ад умовы са Злучэнымі Штатамі, паводлуг каторай Японія была гатова прадаць на 250.000 тонн параходаў у замену за 175.000 тонн сталі.

*Вільня, 20 лістапада.*

Апавешчаючы нашых чытачоў аб утварэньні Організацыйнаго Камітэту дзеля сазыву ў Вільні Беларускай Конфэрэнціі з усіх зямель нямецкай окупаціі, мы лічым сваей павіннасьцю адзначыць усю вагу таго палітычнаго акту, заведзьдзю каторага служыць Камітэт.

Пасьля доўгіх вякоў бяспраўнаго, маўчліваго жыцьця пад панаваньнем чужацкай сілы народ беларускі з гэтаго боку фронту першы раз прызываецца падаць свой голас і на ўвесь сьвет заявіць, якой долі ён хочэ. Ідэя самаазначэньня „малых націй" каторая, бытцым цудоўная краска на магільніку, узрасла на залітай крывёй чэлавечай зямлі, як ядыны рэзультат страшэннай сусьветнай вайны,—ідэя гэта, прызнаная дэмокраціей усіх ваюючых дзержаў, адносіцца ў роўнай меры і да беларусаў, абнімае і наш народ, называны „малым" толькі праз нейкае недаразуменьне, бо чыслом сваім сягаючый цыфры дзесяці мільёнаў. Там, у Расеі, самаазначэньне беларусаў, ешчэ звязаных старой дзержаўнасьцю, адбылося ў постаці жаданьня забаспечэньня національных правоў і аўтономіі ў межах фэдэрацыйнай дэмократычнай расейскай рэспублікі, бо пад Расеей нічога іншаго офіцыальна жадаць не маглі. Тут, з гэтаго боку фронту, дзе народ беларускі апынуўся за межамі уціскаўшай яго чужой дзержавы, перад ім стаіць двайная задача: самаазначэньне як культурна-нацыональнае, так і палітычна-дзержаўнае.

Гэта зусім ясна: у межах окупаціі беларусы павінны думаць ня толькі аб тым, каб забаспечыць сабе магчымасць развіцьця нацыональнай культуры, але і аб тым, як наладзіць гасударственны быт Краю, ў каторым жывуць. Край гэты, быўшый некалі незалежным пад імем Вялікаго Князьства Літоўскаго і абнімаючый як Літоўскіе, так і Беларускіе землі, у занятай немцамі часьці сваей утраціў старую—расейскую—дзержаўную організацію і павінен вытварыць замест яе новую—сваю ўласную. Ідэал сьвядомаго беларускаго грамадзянства—збудаваць сваю дзержаву на такіх асновах, каб яна злучыла ізноў разарваные ваенным фронтам Беларускіе землі, сабрала разам усю беларускую многамільённую сямейку, забаспечыла магчымасць усестароннаго—нацыональнаго, экономічнаго, грамадзянскаго развіцьця ўсім жыхаром краю бяз рожніцы роду і племі. Але, каб гэты ідэал правясьці ў жыцьцё, трэба, каб яго прынялі і паддзержалі ня толькі кіраўнічые палітычные кругі беларускаго грамадзянства, а ўвесь наш народ—усе беларусы. Трэба, каб падала свой голас ня толькі сталіца Краю—Вільня, а ўся наша зямля. А зрабіць гэта можна толькі на Конфэрэнціі, выбранай беларускім насяленьнем з усяго абшару окупаціі,—на Конфэрэнціі, на каторую прыедуць дэпутаты і з беларускай Віленшчыны, і з Гродзеншчыны, і з Беласточчыны, і з Міншчыны і с тэй часьці Сувальшчыны, дзе жывуць беларусы (Аўгустоўскі павет).

Думка аб гэткай Конфэрэнціі, каторая прыняла-бы учасьце як у організаціі нашаго Краю на час вайны, так і на далейшы час, была кінута на беларускім мітынгу ў салі Беларускаго Клюбу ў Вільні 30 верасьня гэтаго году. Організатарам мітынгу сабраўшыеся на ім загадалі ўчыніць патрэбные крокі, каб правясьці яе ў жыцьцё. Крокі гэтые былі ўдачны, і пытаньне аб Беларускай Конфэрэнціі развязано памысна. Дык цяпер беларусы, раскіданые па чысьленых вёсках, мястэчках і местох нашаго краю, павінны напружыць усе свае сілы, павінны дружна—з усіх жыл—узяцца за работу, каб сабраць сваю Конфэрэнцію, каб голас Конфэрэнціі быў моцны, важкі, каб за ей стаяў увесь наш народ, каб усе пачулі той голас і, аценіўшы справядлівасць яго дамаганьнёў, падалі-бы беларускаму народу руку і памаглі яму стварыць новае, вольнае жыцьцё.

---

## Хто ты гэткі?

Жывем мы ў такіх часах, калі шмат гаворыцца а правох малых народаў, а будаваньні імі самымі іхняго ўласнаго жыцьця, і кожнае з ваюючых гасударств гаворэ,—як вы мусіць ужо нераз ў газэтах чыталі,—што яму для сябе нічога ня трэба, а яно ваюе толькі за „правы малых народаў".

Ці гэта праўда—іншая справа, а вось праўда тое, што, як скончыцца вайна і з'едуцца прэдстаўнікі ад усіх гасударств, каб пастанавіць, як і што мае быць, справа гэтых „малых" народаў вылезе на верх.

Будуць там гаварыць і аб нас...

Нераз здаралося нам чуць, як людзі пытаюцца адзін другога:

— Як табе здаецца: ці мы астанемся пад немцам, ці вернемся пад рускаго?

А рэдка мы чулі, каб людзі казалі, што можна жыць і бяз немца і бяз „рускаго", што можна самым кіраваць ўласным жыцьцём,—вось так, як жывуць іншые народы...

А мы-ж павінны ўжо падгатовіцца да гэтаго новаго жыцьця.

Першай важнай справай, каторую нам трэба зрабіць, гэта давядацца: хто мы?

Калі спытаюцца нашаго брата: —„Якой ты веры?"—дык той, хто ходзіць маліцца ў касьцёл, адказывае: „я—польскі", а той, хто моліцца ў цэркві, кажэ: „я—рускі".

Ці-ж гэта так?

Вось, і француз, і італьянец, і шмат ешчэ хто моляцца ў такім жэ самым, як і мы, касьцелі, маюць такіх-жэ самых залежных ад рымскаго Папежа ксяндзоў, а яны-ж ня „польскіе", ня „польскай" веры.

Яны, так сама як і ўсе, што моляцца ў касьцелі, *каталікі*,—яны веры *каталіцкай*, бо німа веры ні польскай, ні французкай, ні італьянскай, а ёсць вера каталіцкая.

А тые, што ходзяць у цэркву, —яны ня „рускай" веры, а *праваслаўнай*. Бо вось так сама ходзяць у цэркву і боўгары, і сэрбы, і грэкі, а ўсёж такі яны ня рускіе, яны толькі праваслаўные.

Дык памятайце: той, хто моліцца ў касьцелі,—той *каталіцкай* веры, а хто моліцца ў цэркві—той веры *праваслаўнай*.

Гэтая абмылка, што нашы людзі кажуць аб сабе: адзін „я польскі", іншы—„я рускі", — ўзялася стуль, што ксяндзы ў касьцелі гаворадь па польску, а сьвяшчэнікі—па расейску, што адным паразданалі польскіе ксёнжкі да набажэнства, а іншым—расейскіе.

А гэта так сама дрэнна, бо чэлавек павінен маліцца Богу ў такой мове, якой гаворыць у сябе ў хаце, якая яму найбольш зразумелая, бо тады і пацеры і ўсялякая малітва будзе больш шчырая, больш ад душы, чымсі у нейкай чужой мове.

А якая-ж наша мова?

Людзі кажуць: «простая», а іншые яе называюць «мужыцкай». Яна можэ толькі дзеля таго простая, што для нас больш за іншые зразумелая, бо калі мы гаворым гэтай «простай» мовай, то нам німа чаго сароміцца ды баяцца, што мы нейкае слова перакруцім, скажэм не так, як трэба, бо мы гэтай мовай гаворым змалку дзён, мы да яе прывыклі і ведаем, што і як у гэтай мове называецца.

«Мужыцкай» мусіць назвалі яе дзеля таго, што ёю гаворадь мужыкі, бо паны не так між сабой гутараць.

А папраўдзі мова гэтая называецца *беларускай* і яна такая самая добрая і пекная, як і ўсялякая іншая.

Праўда, што гэтай мовай недаўна гаварылі толькі селяне, ды вось ужо некольки гадоў, як і ў месьці пачалі так сама гутарыць, як і на вёсцы, пачалі друкаваць кніжкі, і ня толькі на набажэнства, а і рожные іншые, пачалі нават друкаваць газэту...

Чаму-ж гэта?

А вось чаму: бо гэтай мовай гаворадь між сабой ня толькі у аднэй ці у дзьвех вёсках, а ёю гаворадь і ў вітэбшчыне, і ў магілёўшчыне, і ў міншчыне, і ў гродзеншчыне, і ў віленшчыне... Бо ёю гаворадь больш за 9 мільёнаў людзей, бо ёю гаворыць цэлы народ, а народ гэты завецца так сама, як яго мова, *беларускім*.

Дык памятайце: хто гаворэ па беларуску—той беларус.

Быў час, калі і паны, і князі, і біскупы нават гаварылі і пісалі па-беларуску. І цяпер ешчэ захавалося многа розных дакумэнтоў і іншых важных папераў, каторые пісаны так, як мы цяпер гаворым,—значыць, *па-беларуску*.

Многа такіх дакумэнтаў ёсць у старых біблеотэках. Калісь так сама, як цяпер, друкавалі кніжкі ў гэтай мове...

Як наш край злучыўся с Польшчай у адно гасударство, а пасьля меў аднаго супольнаго караля, каралі гэтые спачатку часта жылі ў Вільні, а пасьля дык усё болей у польскім месьці Кракові, а пазьней дык ужо толькі ў Варшаве. Яны гаварылі па-польску, а за імі пачалі гутарыць па-польску і розные нашые вялікіе паны, а за панамі і ўся шляхта, бо ведама, што шляхта заўсёды робіць тое, што і вялікшые паны, каб быць праз тое падабнейшай да іх...

Вось як здарылося гэта!..

І тые самые, што кінулі сваю родную мову, пачалі сьмеяцца с тых, каторые яе ешчэ трымаліся, называючы гэту мову „простай" „мужыцкай".

Ды адно сумна: што часам і нашы селяне пачынаюць верыць, што гэта мова якаясь простая—нікчэмная, што разумны чэлавек павінен гаварыць так, як паны: па польску, або па-расейску.

Людзі! не стыдайцеся сваей беларускай мовы, бо яна—пекная мова! Прыежджаюць с чужых краёў вучоные людзі, едуць на вёску, каб навучыцца гэтай мовы... Ды цяпер ужо ня толькі ў вёсцы пачуеш беларускую мову: пачуеш яе і ў месьці, а гаворадь ею не сермяжные селяне-хлебаробы, а паны ў чорных сурдутах і духавенства.

Беларусы! памятайце, што вы належыце да незалежнаго калісь і сільнаго народу, і не стыдайцеся мовы бацькоў сваіх, бо гэта сорам і грэх,—так сама, як грэх стыдацца беднай радні сваей!

Мы на пачатку сказалі, што, калі хто моліцца у касьцелі, той веры каталіцкай, а хто ў цэркві—той праваслаўнай.

Цяпер, знакам тым, калі вас спытаюцца аб веры вашай, вы ведаеце, што трэба адказаць.

Калі-ж спытаюцца: якога вы народу, якой вы нацыянальнасьці, —вы павінны адказаць: мы беларусы!—бо мова наша беларуская. Кожын павінен сьмела і шчыра заўсёды прызнавацца, што ён беларус.

Калі-ж бы вам сказалі: ты каталік, значыць — ты паляк, дык такім людзям адкажыце:

— Хаця я веры каталіцкай, а ўсё-ж такі я не паляк, а беларус, бо каталіцкую рэлігію маюць і французы, і італьянцы, і іншые, а яны ж не палякі, ды па польску нават зусім не разумеюць.

Беларусы! Калі мы будзем ведаць, хто мы, калі мы сьмела будзем прызнавацца, што мы ніхто іншые, як беларусы, то і для нашаго дзевяцімільённаго народу заясьнее лепшая доля, і мы будзем і патрапім жыць вольна, як і іншые народы, не патрабуючы, каб намі упраўлялі палякі, ці маскалі, ці іншые чужынцы.

Вось, ужо чацьвёрты год ідзе вайна. Многа, вельмі многа крыві ўжо пралілося. Ці-ж кроў гэтая вылівалася дарма? Ці-ж ужо ніякаго пажытку з гэтаго ня будзе?..

Будзе! Пасьля вайны шмат будзе перамэн. Зменяцца граніцы гасударств. Што было сільнае, станецца слабым; што было прыбітае, загуканае — ўваскрэсьнець да жыцьця.

Бог дасць, і мы пачнем жыць інача!

Доўга трывала наша няволя,— ды канец яе ўжо набліжаецца!

**Францішк Олеховіч.**

# У Вільні і ваколіцах.

† **Сьв. п. Антон Івашэўскі.** Толькі цяпер дайшла да нас з Расеі вестка аб сьмерці найстарэйшаго прэдстаўніка беларускаго грамадзянства, земяніна зямлі Вітэбскай, Антона Івашэўскаго, пражыўшаго больш за 70 гадоў.

Сьв. п. Івашэўскі, не маючы магчымасьці прыняць чыннаго ўчасьця ў беларускай нацыональнай рабоці с прычыны свайго гадоў, памагаў ахвотне беларускім установам («Нашай Ніве», выдавецтвам, беларускай кнігарні ў Полацку і т. д.) тым, чым мог: грашыма. Разумеючы, якую вагу дзеля прабуджэньня нацыональнай сьвядомасьці беларусаў мае жывое беларускае слова ў вустах „паноў", гэты прэдстаўнік вялікіх землеўласьнікоў, да катораго прыналежаў вялізарны абшар зямлі, заўсёды публічна гаварыў па-беларусу, саромючы тых беларусоў, каторые з ім, як с „панам", намыкаліся гукаць па-польску.

Сьв. п. Івашэўскі, як шчыры сын свайго краю і свайго народу, быў добра вядомы і сваей дабрачыннай працай, аддаючы бедных сялянскіх дзяцей у школы, ў духоўные сэмінарыі і т. п.

Вечны яму пакой і добрая памяць між людзьмі!

× **Адкрыцьце школ.** Зачыненые па загаду 5 мая г. г. школы могуць быць нанова адкрыты толькі споўніўшы загад начальніка упраўленьня—значыць, падаўшы на імя Stadthauptmanna просьбу. Аб варунках адкрыцьця можна даведацца ў канцэлярыі Stadtschulrat'а.

× **Расклейка абвестак.** Начальнік упраўленьня Litaйen апавешчае, шро ўселякіе апавешчэнь ня на пісьме могуць расклеівацца на вуліцах толькі с пазваленьня Stadthauptmanna. За нарушэньня гэтаго карацімуць штрафам да 1.000 м.

× **Спроба самагубства.** 14 лістапада на вул. Субоч № 1 хацела атруціцца сублімaтам Ядвіга Подлецкая, 21 г. Яе адратавалі. Калі перапаласкалі ей жалудак, то адсюль дабылі 11 сублімaтовых пастылек.

× **Нешчасьлівае здарэньне.** У д. № 7 на ул. Субоч Леа Гэндэль, 13 г., іграючы з іншымі дзяцьмі, па неасьцярожнасьці дастала рану ў жывот нажом, каторы трымало ў руцэ адно з дзяцей. Гэндэлёўну адвязьлі у Жыдоўскі шпіталь.

# Беларускіе легенды.

## Чорнакніжнік і зьмея, што вылупілася с пятушынаго яйца.

(Глядзі „Гоман" № 91).

Карпа найахватней зробіў, што яму радзіў Парамон, выгадаваў нягодную зьмяю, але даведаліся аб гэтых яго чарох, бо людзі, позна варочаючыся дамоў, бачылі зьмяю. Я раз на начлезі бачыў, як гэны страшак ляцеў, пушчаючы навокал сябе іскры, бытцым распаленае зялеза пад молатам каваля, і над страхой хаты Карпы рассыпаўся на дробные часткі і счэз. Неба тады было пагодлівае, ніводнае хмаркі; зоркі на ўсім небі сьвяцілі. О, Божэ! падумаў я сабе, ты ўсенька бачыш і будзеш судзіць людзкіе справы, але людзі ня помняць гэтаго.

Цераз некалькі месяцоў Карпа ўжо багатыр; на кірмашы, або сьвятам ў карчме ходзіць, узяўшыся ў бокі, галава задзёрта і, здаецца, ўсіх мае за нішто, жменяй кідае грошы на стол, каже падаваць, што тыкеля яму прыйдзе ў дум, частуе ўсіх і сьмела крычыць, што пан яму, як родны брат, усё для яго зробіць, што Агапка павінна мець за шчасьце, калі можэ выйсьці за яго замуж, бо ён за свае грошы можэ купіць сабе жонку, якую захочэ.

Агапка, чуючы аб гэтым, сьлязмі ўмывалася, бо ведала, што яна і бацькі нічога ня зробяць, што усё салежыць ад пана, а пан не мае ніякае літасьці; знала яна добра таксама сумленьне і абычаі Карпы, чула часам гуканікі суседзёў міжы сабой, што ён ужо пасябраваў с Парамонам, што ўжо ўзяў сабе ў служкі чарта, каторы прынёс яму лёса[1]) грошай. Ня цешылася з золата маладая дзяўчына, бо хацела тыкеля знайсьці ў сваім мужу рупнаго, цнатлівага і багабойлівага чэлавека.

Ужо год мінае. Карпа ў месьці накупляў дарагіх падаркаў пану і прыехаў на пекным кані прыпамінаці абецанку. Паслалі па бацьку дзяўчыны, загадалі рыхліцца да вясельля.

Бедны Гарасім са сваей жонкай плакаў над нядоляй дзіцяці і маліўся, каб Бог быў ёй апякуном. Агапка хавалася са сваім горам, каб больш не ўжаліць бацькоў. Сабраўшы сваі едвабные касьнікі, каторые найбольш любіла, і некалькі сувояў тонкаго палатна, што сама саткала, пайшла да царквы і, павесіўшы гэта ўсё на абразе Прачыстае Маці, пала на твар, заліваючыся сьлязьмі; ўсе там бывшые не маглі здзержацца ад сьлёз. Пасьля набажэнства выцерла насаткай сьлёзы і вярнулася да бацькоў супакойная, якбы ўцешаная.

[1]) вельмі многа, множэства.

Літасць і прывязьлівасць да дзяўчыны адагналі ў мяне ўвесь страх. Іду да хаты, дзе жыў Гарасім. Дзіўные думкі мятусіліся ў маёй галаве; я пастанавіў ад напасьці схавацца дзе-нібудзь у далёкіх краёх. Ідучы да вёскі, зглядзеў Агапку. Яна адзінокая хадзіла па полі, плачучы пеяла жалобным голасам вясельную песьню на падзяку бацькам за іхную апеку. Падыходжу да яе, бяру за руку. Я быў як непрытомны тады. Хочучы ёй палягчыць, гэтак кажу: — Агапка, я ведаю чаго ты плачэш. Ведаю гора бацькі і маці: Карпа, безбогі чэлавек, падкупіў пана. Паслухай мае рады,— калі хоць частку маеш такое прывязьлівасьці да мяне, якую я маю да цябе і тваіх бацькоў. На зямлі ёсць высокіе горы, зарослые густым лесам; гэтые цёмные бары, што чарнеюць каля нашых сяліб вялізарные, — іх цемраў ня ўгледзіць людзкое вока, яны канчаюцца вельмі далёка. Ідзема адгэтуль, схавáймася ад усіх знаёмых у гэных дзікіх пушчах, я буду тваім апякуном і павадыром. Сьвет вялікі: знойдзем нейдзе куток, дзе схаваемся; ёсць і людзі добрые, даюць прыпынак праступным, каторых суд прасьледуе, а мы нявінны ні перад людзкім, ні перад Божым судом і працай дзе-небудзь заробім сабе на кавалак хлеба. Бог добры дасць нам здароўе і сілы, ў гэтых цемрах паможэць нам.

(Далей будзе).

